Цана асобнага нумару 20 гр.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Віленская вул. 12—6
(Wileńska 12. m. 6)
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. што[illegible]
дня, апрача сьвяточных [illegible]
Адміністрацыя [illegible]
Падпіска на адзін ме[illegible]
хаты 1 зл. 50 гр. Дл[illegible]
даражэй. Перамена [illegible]



# Праца

Выходзіць два разы у тыдзень.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаван. залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№ 3 Вільня, Субота 12-га лістапада 1927 г. Год I

## Дэмаралізацыя.

Апошнія зьезды Паўлюкевічаўскіх і Умястоўскіх шопак высунулі на чаргу дня адно прыкрае ў беларускім жыцьці зьявішча, якое так ці інакш мусіць быць абгаворана. Калі на першы зьезд былі ашуканчым способам зацягнены некалькі радных з вясковых самаўрадаў, то на другім была заўважана прысутнасьць некатарага ліку людзей з г. зв. інтэлігенцыі.

У ўмовах нормальнага г. зв. дэмократычнага ладу такое зьявішча нікога не павінна было-б дзівіць. Кожны знаходзіць сабе парасольчык, якім закрываецца ад сонца. Але ў умовах нашага жыцьця гэтае зьявішча наводзіць трошкі на іншыя разважаньні. Не для каго не зьяўляецца сакрэтам, што абодва „дзеячы" — нішто іншае, як звычайныя палітычныя рыбаловы, якія ня лічацца нікім за беларусаў, прышлі абодва „з чужога берага", каб налавіць рыбы ў закаламучаных варожымі стыхіямі беларускіх водах. Не для каго не зьяўляецца сакрэтам, што абодва яны ёсьць агентамі польскай буржуазіі і абшарніцтва, а значыць—працуюць на карысьць урадовай палітыкі, якая, што таксама не зьяўляецца не для кога сакрэтам, ідзе ў разрэз ня толькі з інтарэсамі беларускіх працоўных гушчаў, а і ўсяго беларускага адраджэньня наагул. Даказваць гэта фактамі—зьяўлялася-б простым чарпаньнем рэшатам мора. Не зьяўлялася ўсё гэта сакрэтам і для тых радных і для „інтэлігенцыі", якія пашлі на гэтыя зьезды. Яны раскошна ведалі, куды ідуць, і аднак—пашлі.

Гэта прыкрае зьявішча стаіць таксама ў сувязі з такім прыкрым фактам, як палітычнае самагубства, перапалохоных і самазрокшыхся паслоў б. Партыяў — Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады — п. Сабалеўскага — і да тога здэгенараванай г. зв. „французскай" фракцыі N. P-ch (Бон, Шакун і Шапэль), якія цяпер круцяцца, як мурахі ля банкі, шукаючы праходу да салодкага ім мёду—дастаньня новых пасольскіх мандатаў. Сюды трэба было-б далучыць некалькі, праўда, нялічных фактаў, „ціхага" пераходу некаторых асобаў, не валадаючых такімі гучнымі тытуламі.

Імя гэтаму зьявішчу — *дэмаралізацыя, распуства*! Закрываць яго ня можна і непатрэбна.

Бязумоўна, першаю прычынаю, паслужыўшаю асновай паўстаньня гэтага зьявішча—ёсьць тэрор, які, як Дамоклаў меч, павіс на валаску над краем, гатовы кожную сэкунду зваліцца на галаву тых, хто асьмеліцца паварушыцца. Трэба надзвычайнай арганізованасьці, дысцыплінованасьці, выдзержкі, каб выстаяць пад гэтым мячом, не зварухнуцца. Беларускія працоўныя масы самым бліскучым способам даказалі ўсё гэта і толькі частка інтэлігенцыі, і поўінтэлігенцыі ды „паслы" — зварушыліся... зварушыліся, упаўшы да ног і цалуючы іх у тых, хто гэты меч дзяржыць у руках.

Другою прычынаю, выклікаўшай успомненае зьявішча, ёсьць проста немагчымае тамаваньне беларускага адраджэнскага руху з боку ўрадовых чыньнікаў, нежаданьне здаволіць навет мінімальных, навет прымітыўных патрэбаў беларускага адраджэнскага руху, дзякуючы чаму цэлы кадр мясцовых сілаў выкінены за борт жыцьця на вуліцу, мусіць галадаваць, жабраваць, паміраць ня толькі духова, а і фізычна.

Гэтыя абедзьве прычыны, дапаўняючыя адна другую, пры надзвычайным напружаньні сілаў арганізаванага народу, не змаглі замуціць яго. Грознае маўчаньне мільённых працоўных гушчаў, якія, як загадка сфінкса, стойка і рашуча глядзяць наперад перад сабою—зьяўляецца адказам на іх. Але, як мора выкідае нягодныя, непатрэбныя яму трэскі, так і тут выкінула мора працоўных — непатрэбных яму вырадкаў, якія пайшлі сьвядома на службу варожым народу стыхіям, пайшлі заціскаць разам з палітычнымі спэкулянтамі яшчэ цясьней пятлю на шыю беларускім працоўным гушчам.

Гаворачы аб радных, можна яшчэ дапусьціць пэўную ступень несьвядомасьці, палітычнай наіўнасьці і недасьпеласьці, недасьпеласьці ня у сэньсе неразуменьня таго, што прадстаўляе сабою Паўлюкевіч і яго банда (о, аб гэтым пэўна ведае кожная баба ў вёсцы), але ў сэньсе неразуменьня імі той маральнай і грамадзкай вагі вынікаў, якія за сабою цягне іх учынак. Па заявах прысутных — усе гэтыя радныя тлумачаць свой прыезд на зьезд проста — „хацелі праехацца да Вільні на ўрадовыя грошы, і галасавалі толькі дзеля таго, што баяліся апынуцца бяз грошай на паварот". Гэта паказвае ўсю паўнату іх палітычнай і грамадзкай недасьпеласьці і наіўнасьці, але ня скідае з іх адказнасьці, ня толькі за сваё паніжэньне, як грамадзян, але і за паніжэньне праз гэта тых мас, якія іх выбіралі ў самаўрады і імем якіх яны карысталіся. Хай-жа гэта ім паслужыць навукай на будучыню, каб не паніжаць ні сябе, ні свайго грамадзянства.

Але, калі гэта можам сказаць аб радных, прысутных на зьезьдзе Паўлюкевіча, дык аб інтэлігенцыі і паўінтэлігенцыі з-пад знаку Умястоўшчыны гэтага сквзаць нельга. У адносінах да іх трэба рэчы называць іх уласным імем... Гэта — такія-ж здэмаралізаваныя людзі, як і „павадыры", за якімі яны пайшлі. Гэта—людзі, для якіх прадажа сумленьня нічога не каштуе. Гэта — жменя вырадкаў, якія ўбачылі пах панскіх падачкаў, забыўшыся аб тым, што гэты пах, мізэрны, годны жалю; пах, прыгатаваны са сьлёзаў і крыві працоўнага народу!...

„Інтэлігентаў", розных „паслоў" — няма чаго шкадаваць. Балота — відаць родная ім стыхія! А ў радных мы гатовы бачыць запраўдную несьвядомасьць, плады якой яны ўбачаць па прыезьдзе ў родныя вёскі, дзе ім скажуць, што яны запраўды зрабілі і патрэбуюць ад іх адчоту. Беларускія працоўныя масы гэтым не зачэплены. Дружна, выдзержана, рашуча ідуць яны да свaей аканчальнай перамогі і сьветлай будучыні.

## Напярэдадні распачацьця польска - нямецкіх гандлёвых перагавораў.

Польска нямецкая гаспадарчая вайна, трэба думаць, набліжаецца к канцу. Нямецкі ўрад даручыў усю справу асабістаму кіраўніцтву самога Штрэзэмана, падчыркнуўшы гэтым — ня толькі тое, што лічыць справу найвыдатнейша важнай, але і тое, што — узалежняе пасьпех гаспадарчага паразуменьня з Польшчай хуткім і рашучым зьліквідаваньнем тых нямені важных палітычных перашкодаў, якія дагэтуль стаялі на шляху спыненьня мытнай вайны і заключэньня гандлёвага трактату.

Сярод гэтых перашкодаў першае месца, як ведама, займала справа сталага пасяленьня ў Польшчы нямецкіх гандлёвых агентаў.

Два з паловай гады таму нямецкая дэлегацыя парвала йшоўшыя перагаворы якраз, як яна заявіла—з прычыны „тасаваньня польскім урадам высяленьня нямецкіх грамадзян, занятых у гандлі ды прамысловасьці". І гэты „палітычны мамант" перагавораў дагэтуль ня быў урэгуляваны, бо-ж дагэтуль польскі ўрад і слухаць не хацеў аб якіхсьці ўступках, хаця пасьля і згадзіўся выдзеліць „палітычныя мамэнты" справы—для асобных перагавораў, якія і вёў—з няведамым скуткам з нямецкім паслом у Варшаве. Апошнія весткі ў польскай прэсе, заявы міністра гандлю і прамысловасьці, старшыні Сэнату і г. д. кажуць выразна, што польскі ўрад пайшоў на вельмі значныя ўступкі нямецкім „палітычным" дамаганьням. Якія гэта ўступкі, дакладна няведама; мін. Квяткоўскі толькі заявіў, што польскі ўрад у кожным разе ня прызнаў немцам—„найкарысьнейшых варункаў" пабыту і гаспадарчай акцыі ў Польшчы, якімі карыстаюцца грамадзяне асабліва прыязных з Польшчай дзяржаваў,—а на падставе падпісаных з імі палітычных і гаспадарчых трактатаў... Але, што ўступкі з боку Польшчы немцам—вельмі значныя, аб гэтым, відаць, больш дакладна, чым польская, паінфармавана нямецкая прэса.

Нямецкая прэса, асабліва—дэмакратычная, лібэральная і сацыялістычная—выражае вялікае здаволеньне з прычыны польскай уступлівасьці ў „прынцыповых палітычных справах", называючы паразуменьне—„вялікім пасьпехам нямецкай палітыкі". Праўда, з другога боку, абшарніцка-нацыяналістычная прэса Нямеччыны абураецца на ўрад — за „залішнія ўступкі на карысьць Польшчы, крыўдныя для краю", але—гэта-ж ведама — праява агульнага спраціву нямецкіх аграрыяў проці трактату, які б'е іх па іх сельскагаспадарчай манаполіі ў краі.

Вялікае значэньне гаспадарчай супрацы Польшчы з Нямеччынай—бясспрэчна, асабліва для гаспадарчай раўнавагі Польшчы. Дык трэба думаць, што такое хуткае рашэньне з польскага боку ісьці на „палітычныя ўступкі" Нямеччыне зараз-жа пасьля падпісаньня ўмовы аб заграніччнай пазыцы—пасьля больш, як 2-гадовай няўступлівасьці ды—„вайны" з Нямеччынай — тлумачыцца паміж іншым — і тым націскам, які бяз сумліву зроблены на польскі ўрад—дэлегацыяй міжнародавых капіталістаў, пазычыўшых Польшчы грошы на яе фінансава-гаспадарчую стабілізацыю... Бо-ж, як ведама, львіную частку пазыкі ўзяў на сябе амэрыканскі капітал, які якраз улажыўся—у вялізарнай суме 10 мільярдаў залатых марак — у нямецкую прамысловасьць, пасьпеху дый добрых зыскаў, якой—пэўне ж — хоча дапамагаць, дзе толькі можа. Дзеля таго—у яўных інтэрэсах гэтага амэрыканскага капіталу ў Нямеччыне—прабіваць для нямецкай прамысловасьці ўсе „мытныя муры, платы ды грэблі", якія настаўлены на шляху яе „экспансіі" (пашырэньня), здабываючы для яе — новыя рынкі збыту... Што гэта—так, можна зразумець з некалькіх галасоў у польскай прэсе, якія бачаць вялікую небясьпеку для Польшчы... у амэрыканскай пазыцы... Быццам пазыка гэта, паміж іншым, мае мэтай — утрымаць Польшчу на становішчы перадусім аграрнага краю (зямліробскага), забясьпечываючы тым самым прамысловай Заходняй Эўропе вялікі польскі рынак для яе фабрыкатаў—у абмен на польскае сыр'ё, збожжа і жыўнасьць.

Дзеля таго і пазыка мае перадусім, калі ня выключна,—стабілізацыйны (укрэпляючы валюту), а не—інвэстыцыйны (гаспадарча-разбудоўваючы) характар... І калі мы ўцямім, што пасярэднікам амэрыканскага капіталу, захопліваючага пад свае ўплывы гаспадарчае жыцьцё Эўропы, зьяўляецца, як сказана вышэй, Нямеччына, дык сувязь выданай Польшчы пазыкі з шпаркім ходам узнавіўшыхся польска-нямецкіх перагавораў стане для нас — амаль-што не бясспрэчнай... І трэба прызнаць, што польская прэса добра разумее—побач з карысьцямі пазыкі і гаспадарчага паразуменьня з Нямеччынай—і ўсе небясьпекі гэтага — сьпярша эканамічнага, а пасьля можа і палітычнага апанаваньня Польшчы магутным гаспадарчым і дзяржаўным арганізмам Нямеччыны... Ну, але гэта ўжо—галіна таго „жалезнага закону канкурэнцыі", проці якога няма на сьвеце „лекаў".

## Палітычная хроніка.

### У Польшчы.

#### Тэрмін выбараў.

У прэсе шырока разважаецца пытаньне аб тэрміне новых выбараў. Выказваюцца сумляваньні, ці пасьля 28 лістапада будуць абвешчаны выбары. Аднак гэтыя сумляваньні ня маюць праўных падставаў. Канстытуцыя выразна кажа, што выбары маюць адбыцца ў працягу 90 дзён пасьля роспуску парляманту. Хоць канстытуцыя і ня кажа аб тэрміне выбараў па ўплыве мандатных паўнамоцтваў, аднак выбарны закон выразна пастанаўляе, што прэзыдэнт павінен абвясьціць новыя выбары найпазьней у працягу тыдня па ўплыве мандатных паўнамоцтваў. Гэткім чынам не далей, як 5 сьнежня, павінен быць абвешчаны тэрмін выбараў. Дзеля таго, што выбары павінны адбыцца ў працягу 90 дзён пасьля іх абвешчаньня, дзеля гэтага галасаваньне на сьпіскі ў Сойм адбудзецца між 28 лютым і 5 сакавіком, а ў Сэнат між 5 і 12 сакавіком. Новы Сойм павінен будзе сабрацца гэткім чынам 23 сакавіка.

#### Водгукі 10-х угодкаў кастрычнікавай рэвалюцыі ў Польшчы.

З прычыны 10 угодкаў кастрычнікавай рэвалюцыі ва ўсіх гарадах Польшчы і прамысловых цэнтрах адбываліся маніфэстацыі, мітынгі і інш. праявы.

#### У Варшаве.

Вось, як апісываюць гэта варшаўскія газэты: Ад самага раньня раскідваліся лятучкі і разьвешваліся чырвоныя сьцягі з надпісамі. Вечарам на Празе сабраўся тысячны натоўп дэманстраваўшы супроць паліцыі.

На Парысаўскай плошчы адбыўся мітынг, які аднак паліцыя разагнала. Такія-ж самыя мітынгі арганізаваліся ў жыдоўскім квартале на вул. Смочай, перад фабрыкай Норліна, на вул. Жалезнай, дзе арыштавана прамоўцу Вольфа Ландау, на вуліцы Бэльвэдэрскай, дзе арыштавана Станіслава Пэнканка, у якога адабралі чырвоны штандар, лятучкі. а таксама камуністычныя брашуры і часопісі: „Чырвоны сьцяг" і „Салдат камуніст". На Боніфратэрскай арыштавана Мошку Пружняка, у якога адабраны чырвоны штандар. На Празе разагнала паліцыя дэманстрацыю работнікаў найвялікшай фабрыкі амуніцыі ў Польшчы „Pocisk", адбіраючы і сьцяг. Адбываліся дэманстрацыі на плошчы Мураноўскага, вул. Любэцкага, Дробнай, Мілай, Кармэліцкай, Акаповай. Усе гэтыя дэманстрацыі разагнала паліцыя.

Найвялікшая дэманстрацыя адбылася перад турмой, на вуліцы Дзельнай, як паведамляе навет „Gazeta Warszawska",—2 тысячы асоб. Варта адзначыць, што побач чырвоных сьцагаў былі і чорныя — анархістычныя. Пры разганяньні адбываліся, відаць, „прыгожыя" сцэнкі, бо 6 чалавек адвезла скорая помач, а ўласьне Шыя Зыскінд, Эдвард Тарко, Вольф Задранецкі, Іцэк Кляйнман і І. Артман.

Гэтак адбылася, як паведамляе правая прэса, сьвяткаваньне 10 угодкаў кастрычніка ў Варшаве.

#### У Пазнані.

У ноч на панядзелак у розных канцох гораду раскідаліся лятучкі. У 9 гадзін вечара заўважана на схілах крэпасьці нейкага чалавека. Заўважаны кольпортэр кінуўся наўцекі, пакінуўшы пачку літэратуры. Пасьля доўгай пагоні ўдалося яго аднак арыштаваць. Гэтым кольпортэрам аказаўся Мечыслаў Волькевіч.

#### Павіншаваньне мястовай рады ў Чэлядзі.

Як паведамляе „Gaz. War.", мястовая рада м. Чэлядзі ўхваліла па ініцыятыве Работніцкай Еднасьці паслаць павіншаваньне працоўным масам Савецкага Саюзу з прычыны 10 угодкаў Кастрычнікавай Рэвалюцыі. Мяшчанска-Дэмакратычны Клюб пакінуў у адказ на гэта паседжаньне. Пасьля гэтага была прынята пастанова аб пасылцы на гарадзкі кошт дэлегацыі ў Савецкі Саюз для азнаямленьня з працамі тамтэйшых гарадзкіх самаўрадаў. Характэрна, што гэтай другой пастановы клюб пэпээсаў ня вытрываў і дэманстрацыйна пакінуў паседжаньне. З капіталістычнай гарадзкой гаспадаркай Захаду знаёміцца можна, а з сацыялістычнай, дык, паводлуг П.П.С., праступленьне. Пекна панкі.

#### Скасаваньне ўсялякіх абмяжаваньняў абароту чужых валютаў (грошаў замежных дзяржаваў) у Польшчы.

Паводле дэкрэту Прэзыдэнта — ад 5 лістапада спыняюцца ўсе абмяжаваньні для вольнага абароту замежных валютаў — даляраў і інш. — у Польшчы. Цяпер можна, сколькі хочаш і дзе хочаш, купляць ды прадаваць даляры і іншыя чужыя валюты, высылаць іх заграніцу ў неабмяжаванай колькасьці — поштай, пераказамі і тэлеграфамі. Таксама можна — без усялякіх абмяжаваньняў высылаць заграніцу полскую валюту (злоты) — сколькі каму трэба. Забарона, ці абмяжаваньні, асталіся толькі для вывазу ці высылкі заграніцу золата і серабра.

### Блёк нацыянальных меншасьцяў.

Жыдоўская прэса зьмяшчае інтэрв'ю з старшынёй жыдоўскага клюбу Гартглясам аб блёке нацыянальных меншасьцяў. Каб пры сучасным выбарным законе забясьпечыць сабе мандаты, нацыянальныя меншасьці, уважае Гартгляс, павінны стварыць блёк, бо ў праціўным выпадку пагражае ім распарушаньне. У гэтых выбарах пры ўмове стварэньня блёку нацыянальных меншасьцяў здабудуць, на пагляд Гартгляса, 20 мандатамі болей, чым у папярэдніх.

Калі-б урад, разважае далей Гартгляс, хацеў-бы мець сільную апору ў парляманьце і калі-б меў на гэта адвагу, дык павінен быў-бы — узяць ініцыятыву ўтварэньня блёку санатараў з блёкам нацыян. меншасьцяў.

Працэс Шварцбарда, на пагляд Гартгляса, ня будзе мець ўплыву на пазыцыю ўкраінцаў. Найлепшым доказам гэтага зьяўляецца жаданьне Унда заключыць блёк меншасьцяў. Далей Гартгляс (сіоніст-Рэд) закідывае жыдоўскім ортадоксам, што яны гатовы ў кожную хвіліну сарваць жыдоўскую еднасьць і аб'яднацца з абшарнікамі.

Цікава выглядае гэтая жыдоўская апазіцыя, калі Гартгляс (сіоніст) ня мае нічога проціў блёку санацыя — меншасьць і толькі ўнікае ортадоксаў, за лішнюю загаварчывасьць ды прыхільнасьць. Раскошная апазіцыя! Зрэшта, блёк санацыя—жыды (буржуазныя групы) фактычна ўжо нягласна існуе. Нядаўна польскія газэты зьмясьцілі вестку, аб фінансавай санацыі органу „санацыі“ „Głosu Prawdy“, блізкага банкруцтва шляхам пакупкі 50% акцыі гэтага прадпрыемства жыдоўскім банкірам Шэрэшэўскім, сфінансаваўшым у 1922 г. выбарную кампанію „шасьцясткі“. Тварэц блёку нац. меншасьцяў, жыдоўскі банкір, ужо зблёкаваўся з урадам „санацыі“, урадам фінансавага капіталу і абшарнікаў. Чарга за дзіцяткам.

### Палажэньне ў Пясьце.

У мінуўшую нядзелю адбыліся 3 ваяводзкіх пястоўскіх зьезды: у Лодзі, Кельцах і Варшаве.

На ўсіх гэтых зьездах быў вынесен вотум даверыя палітыцы Вітаса і асуджана сэцэсія Бойкі. Лодзкі зьезд пастанавіў, што паразуменьне з урадам можа наступіць толькі на падставе партыйнай праграмы дый прызнаньня гарантаванага канстытуцыяй парлямантарнага ладу. Асабліва апазіцыйны настрой панаваў на варшаўскім зьезьдзе, дзе, як паведамляе „Głos Prawdy“, былі навет арыштаваны 2 вучасьнікі зьезду з пасярод дэлегатаў за проці-ўрадовыя і проці-дзяржаўныя выкрыкі. Цікава пасьведчаньне аб настроях польскага сялянства навет у радох кулацкай арганізацыі.

### Прэсавы дэкрэт і суды.

Як ведама, Сойм вынес пастанову аб скасаваньні прэсавага дэкрэту, якая ня была агалошана ў „Dzienniku Ustaw“, а гэта нібы з поваду нязгоды паглядаў ураду і Сойму, што да спосабаў касаваньня ўрадовых дэкрэтаў праз Сойм. Цяпер жа адны суды ўважаюць, што дэкрэт дзее і яго прымяняюць, другія, як напрыклад у Астрове, аб чым пісала „Gaz. War.“, прызнаюць дэкрэт няіснуючым і звальняюць сканфіскаваныя на яго падставе газэты, трэція заяўляюць, што будуць чакаць, пакуль ня высьветліцца справа з дэкрэтам.

Так зрабіў, як паведамляе „Gaz. War.“, і суд у Пазнані. Суд адмовіўся разглядаць справу, узьнікшую на падставе дэкрэту да тых пор, пакуль ня выясьніцца сам лёс дэкрэту.

Гэтыя прыпадкі даволі выразна ілюструюць нам, якімі прычынамі выкліканы і якія мэты будзе перасьледаваць рэарганізацыя судоў і зьвязаная з ей адмена незьмяняльнасьці і няпераноснасьці судзьдзяў, якую задумаў урад.

### Мілітарызацыя.

Мілітарызацыя адміністрацыі, абсаджываньне вышэйшых урадаў афіцэрамі — ідзе сыстэматычна далей. Аднэй з чародных праяў гэтай мілітарызацыі зьяўляецца назначэньне маёра Ражнеўскага начальнікам „wydziału bezpieczeństwa publicznego“ варшаўскага ваяводзтва. Да чаго гэта мілітарызацыя даходзіць, можа сьведчыць абурыўшы ўсю польскую грамадзкасьць анэгдатычны факт даручэньня арганізацыі літэратурнай акадэміі палкоўніку кавалерыі Длуюновскаму, ня маючаму нічога супольнага з літэратурай. Мілітарызацыя навет і літэратуры. Прынамся пасьлядоўнасьць.

## Заграніцай.

### Водгук зацьверджаньня латвійскім Соймам трактату з Радамі.

Пасьля ратыфікацыі трактату з Радамі і агульна палітычнай дыскусіі латвійскі Сойм —50 галасамі проці 48 — выразіў даверые ўраду Цэленса.

### Справа польска-нямецкіх перагавораў аб заключэньні таргавага трактату.

Справа польска-нямецкага таргавага трактату, якая цягнецца ўжо больш, як тры гады, стварыўшы зацяжны стан гаспадарчай вайны паміж абодвума краямі, здаецца, ізноў мае нeяк скрануцца з месца. Ці дойдзе цяпер нарэшце да паразуменьня, сказаць цяжка. Але—вось апошнія весткі ў гэтай справе. — Нямецкі ўрад на спэцыяльным паседжаньні, разглядзеўшы справу, даручыў мін. Штрэзэману паразумецца з польскім урадам—каб узнавіць перагаворы. Але—перад тым, як будзе прыступлена да тэхнічных гутарак аб тарговым трактаце, павінны быць узгоднены ўсе тыя палітычныя ды гаспадарча-палітычныя справы, якія дагэтуль стаялі на перашкодзе чыста-гаспадарчаму паразуменьню Нямеччыны з Польшчай. Гэтыя ўступныя палітычныя перагаворы і мае распачаць зараз-жа сам Штрэзэман з прадстаўніком польскага ўраду, якім назначаны ўжо гандлёвы радца польскага пасольства ў Бэрліне—Сакалоўскі. Толькі пасьля таго, як гэтыя палітычныя спорныя справы будуць вырашаны, нямецкі ўрад згодзіцца на перагаворы ў справах, сьцісла гаспадарчых. Але, як ведама, якраз на гэтых палітычна-спорных справах і раней рваліся ўсе спробы гаспадарчага паразуменьня, карыснага для абодвух краёў.

### У французскім Марокко—„усё спакойна“.

У французскім Марокко — пасьля задушанага паўстаньня Абдэль Кэрыма — „пануе поўны спакой“. Толькі вось нядаўна, калі „высокі губэрнатар“ французскага Марокко выехаў у Францыю, уся яго сям'я была захоплена ў палон „мірным насяленьнем“ усьміранага краю дый завезена дзесьці далёка ў глыбіню яго... Захоплены сябры губэрнатарскай сям'і, — у лесе ў часе падарожы на аўтамабіле. Цяпер быццам ведама ўжо, дзе яны схаваны дый аб выдачы іх і павароце дамоў... ідуць перагаворы. Астаноўка толькі за тым, што князь захапіўшага ўсю сям'ю губэрнатара пляменьня трэбуе за яе вялізарны выкуп...

### У македонскім сагане ўсьцяж кіпіць.

У Македоніі, якую ня гледзячы на яе амаль ня чыста баўгарскае насяленьне, саюзьнікі—„у нагароду за вернасьць“—аддалі Сэрбіі, усьцяж кіпіць паўстанчае абурэньне проці страшэннага сыстэматычнага тэрору сэрбскіх уладаў, якія, відаць, толькі гэтым тэрорам могуць утрымліваць панаваньне свае ў чужым і варожым да іх краі... Які „рэжым“ пануе ўсьцяж у гэтым шмат-пакутным краі, красамоўна кажуць апошнія выпадкі.— Толькі там зарэзаны—бацька і брат павадыра македонскай рэвалюцыйнай арганізацыі Міхайлава. Баўгарская прэса амаль не аднагалосна вінаваціць ў гэтым забойстве руку „акупацыйнай сэрбскай улады“ ў Македоніі. З свайго боку, югаслаўская прэса цьвердзіць, быццам гэта забойства—помста македонскіх „фэдэралістаў“ (угадоўцаў) — за забойства сэрбскага генарала Кавачэвіча, з за якога ўзгарэўся нядаўна канфлікт паміж Югаславіяй і Баўгарыяй. Па балканскаму звычаю, дзе, здаецца, яшчэ дагэтуль захаваліся „правы крывавай помсты“, апошняе забойства зусім ня мае быць апошнім. — Бо-ж вось югаслаўская паліцыя даведалася, быццам у край ужо прыбылі два высланцы македонскай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Баўгарыі, якія маюць даручэньне — забіць у Белградзе камэнданта жандармэрыі і шэфа дзяржаўнай палітычнай паліцыі. Паліцыяй прыняты надзвычайныя меры... Гэткім чынам, — ланцуг палітычных забойстваў цягнецца без канца, усё павялічваючыся. Пэўне-ж, што спыніць яго толькі — вырашэньне аканчальна тэй страшэнна балючай, несправядліва „зьліквідаванай“ саюзьнікамі задачы, якой зьяўляецца старадаўняя „македонская справа“.

Баўгарскае насяленьне Македоніі жадае — або незалежнасьці, або — фэдэрацыі, але—ведама ж—ня з Сэрбіяй, але—з роднай па крыві ды па духу Баўгарыяй. Ненавісьць македонцаў да сэрбаў — застарэлая, спрадвечная.

### Бурныя сцэны ў югаслаўскім парляманьце.

У югаслаўскім парляманьце мелі месца бурныя сцэны ў зьвязку з дыскусіяй у справе новых падаткаў, якія ўвёў урад.

Павадыр апазіцыі Радзіч (харват) трэбаваў скасаваньня гэтых падаткаў, якія цалком аграбяць і без таго згалелы край. Міністар скарбу трэбаваў адтэрмінаваньня дыскусіі. Спрэчкі прынялі такі востры характар, што старшыні прышлося зачыніць паседжаньне.

### Новая „змова“ ў Таўрогах...

Літоўскія фашысты, гвалтам захапіўшыя ўладу, чуючы заўсёды над сабой пагрозу з боку народнага гневу, — толькі і робяць, што — „раскрываюць паўстаньні“. — Толькі што пасьля паўстаньня ў Таўрогах, раскрыта там-жа другое.—Ізноў—арыштавана шмат сацыял-дэмакратаў, а таксама сяброў іншых партыяў лявіцы. Обыскі зроблены ў гімназіі, дзе быццам сьцьверджана ўчасьце ў „змове проці ўраду Вальдэмараса“ некалькіх вучыцялёў ды вучняў... Другая „змова“ раскрыта ў Вількаміры, ужо быццам — значна паважнейшая—бо сярод афіцэраў і жаўнераў 5 палку пяхоты. Гэты полк меў быццам даканаць замаху на ўладу Вальдэмараса. Замах арганізаваны „Саюзам Ахвовы Літоўскай Рэспублікі“.

### Частковая эвакуацыя Надрэніі.

Нямецкія газэты сцьвярджаюць, што эвакуацыя 10 тысячаў акупацыйных войск з Надрэніі адбылася цалком і спакойна.

### Камісія нямецкага парляманту — за захаваньне кары сьмерці.

Доўгая дыскусія праўнай камісіі нямецкага парляманту ў справе скасаваньня кары сьмерці—па прапазіцыі сацыял-демакратаў— скончылася непамысна для праекту. 17 галасоў буржуазных сяброў камісіі перамаглі 11 галасоў сацыялістычных, адкінуўшы прапазіцыю. Большасьць камісіі адкінула навет прапазіцыі сацыялістаў, каб выслухаць прынамсі сьпярша апінію спэцыялістаў — крыміналістаў (знаўцаў карнага права і практыкі судова-вастрожнай). Які лёс агіднага закону, дазваляючага чалавеку забіваць свайго брата — можна прадбачыць: нямецкая буржуазія ня хоча адмаўляцца ад такога магутнага прыладу для аховы свайго панаваньня, як кара сьмерці.

### Хто стаў на месца Вільгэльма II цяпер у Эўропе.

Ведама, якія неспадзеванкі ды трывогі рабіў усьцяж да выбуху вайны нямецкі кайзэр Вільгэльм — ад часу да часу — сярод панаваўшага тады „азброенага да зубоў міру“ у Эўропе — гучна „грукаючы аб стол браніраваным кулаком“, ці раптам — выпаліваючы дзіка-ваяўнічую прамову...

Цяпер на месца гэтага запаліўшага сьвет вайной дый пасаджанага ў „дом паправы“ каранаванага вар'ята яго ролю, адкрыта страшучага сьвет новай вайной азброенага да зубоў шалёнага блазна іграе — ведама-ж — ніхто іншы, як галава італьянскага фашызму — Мусоліні — пэўна ж не бяз скрытага, але ўсім ведамага, — правакацыйнага нацкоўваньня з боку „пацыфістычнага“ ангельскага ўраду...

Ня першы раз ужо Мусоліні папросту правакуе канфлікт з Францыяй. Апошняй спробай ізноў вывесьці з раўнавагі францускую публічную апінію зьяўляецца неспадзеваная „візыта“ італьянскага флёту ў Танжэрскі порт, якая ясна падчырківаe дамаганьні Італіі — мець голас у справе лёсу гэтага важнейшага порту Гішпанскага Марокко, дый наагул — у справе Марокко, у якой дагэтуль Італія — згодна з паразуменьнем Англіі, Францыі і Гішпаніі — ніякага голасу ня мела... Як ведама, Італія выразна заяўляе свае прэтэнзіі на новы падзел афрыканскіх калёніяў Францыі і Гішпаніі, даводзячы, што італьянскія інтарэсы ў францускіх калёніях ў Афрыцы—навет важнейшыя, як францускія—бо італьянцаў у іх—значна больш, як французаў...

Француская прэса страшэнна ўзбурана гэтым новым наступам Італіі, прыпамінаючы, што такую-ж „візыту“ — у часе англа-францускай канфэрэнцыі — зрабіў у адзін з марокскіх партоў у 1911 г.—па прыказу Вільгэльма II ваенны карабель нямецкага флёту— „Пантэра“, тады, як ведама, гэты „крок“ выклікаў страшэнную буру—ня толькі ў Францыі, але і ў Англіі. Абедзьве дзяржавы патрэбавалі ад Вільгэльма — пад пагрозай аб'яўленьня вайны Нямеччыне — безадкладнага адкліканьня яго „Пантэры“ з Агадырскага порту... Вільгэльм, не гатовы яшчэ да вайны ў 1911 г., спужаўся дый прыціх.

Цяпер — тое ж самае — перад француска-гішпанскай канфэрэнцыяй — робіць Мусоліні... Але — за яго плячыма схавалася Англія... Дык — італьянская правакацыя і на гэты раз выкліча толькі бяссільны пратэст аднэй Францыі.

### Водгукі выхаду Франкліна дэ-Буйена з партыі.

Парляманцкі клюб радыкал-сацыялістаў выдаў вельмі вострую адозву — у адказ на заяву свайго павадыра дэ-Буйена аб выхадзе з партыі. Адозва называе недапушчальнымі тыя закіды, якія робіць партыі дэ-Буйен, матывуючы свой выхад з яе. Партыя ніколі не пакідала турботы аб абароне краю дый аб захаваньні міру. Фальшыва дэ-Буйен кажа і аб згодзе партыі на далучэньне Аўстрыі да Нямеччыны, а таксама і аб скасаваньні акупацыі.

Нямецкая прэса разглядае выступленьне дэ-Буйена, як важную перамогу нацыяналістаў з Пуанкарэ на чале. Буйен мае стварыць новую партыю, якой будзе раскалываць далей партыю радыкалаў—на карысьць процінямецкай палітыкі Пуанкарэ.

### Канец гучнай справы былога эстонскага пасла ў Маскве.

Толькі што скончыўся працэс у гучнай справе былога эстонскага пасла ў Маскве, якога эстонскі ўрад абвініў у здрадзе.

У сваім часе ўрад адклікаў пасла, проці якога меў падазрэньні, але той—вячуваная, здаецца, у падзеях дыплёматыі рэч — адмовіўся вярнуцца з СССР у край, каб даць справаздачу свайму ўраду. Шмат шуму рабіла тады прэса, як эстонская, таксама і замежная. Тым больш, што быццам (?) пасол Бірка апублікаваў у радавай прэсе сьцяг кампрамітуючых эстонскі ўрад дакумантаў, дый урэшце навет — быццам — перайшоў на службу радавага ўраду. Наскалькі ў гэтым усім праўды, цяжка сказаць. Але вось толькі-што адбыўшыся суд над дабравольна вярнуўшымся, каб стаць перад гэтым судом, былым паслом Біркай,—цалкам апраўдаў яго ад закідаў здрады дый выпусьціў на волю...

**БРАТЫ! НЕ ЗНІШТАЖАЙЦЕ СВАЕ БЕЛАРУСКАЕ ГАЗЭТЫ; ПРАЧЫТАУШЫ, АДДАЙЦЕ СУСЕДЗЯМ.**

*Ляо-Дзэ.*

## Пад касою сьмерці.

Засеўшыя ў Марокко французы трыумфавалі і тыдзень таму назад войску і паліцыі ўдалося нарэшце злавіць небясьпечнага бунтара Бэн-Альлі—арганізатара анты-францускае агітацыі і паўстанчых атрадаў.

У злоўленага былі знойдзены з даўгой руляй стрэльба, з якой страляў яшчэ яго дзед, пячатка пятага раёну Мараканскай рэспублікі, якоесьці незразумелае ўсім пісьмо і новы бэльгійскай работы браўнінг—доказы, што Бэн-Альлі быў ня толькі ў зносінах з Аб-Дэль Крымам, але і з камуністымі.

Маючы ў руках такія пэўныя доказы „віны“ Бэн Альлі, сьледзтва не зацягнулася надоўга і ўчора сьпешна сабраны палявы суд вынес свой „справядлівы“ прысуд.

Высокі, аспаваты, з худым тварам і глыбокімі, задумчывымі вачыма Бэн-Альлі спакойна і холадна, усёроўна, як-бы справа ішла не аб ім, прапушчаў між вушэй артыкулы і параграфы, якія падлічвалі зробленых ім праступкі проціў існуючага ладу і францускай дзяржавы, ды важылі іх даўгімі гадамі катаргі і цэлым жыцьцём гэтага чалавека.

— „Бэн-Альлі, стаяў на чале паўстанчых банд“... Чытаў голасна старшыня суду, „падбурваў Мараканскае грамадзянства да клясавай і нацыянальнай барацьбы з мэтай адарваньня Марокка ад Францыі і стварэньня з гэтых зямель самастойнай рэспублікі, з ладам падобным да ладу савецкага“...

Твар Бэн-Альлі пры апошніх словах старшыні ўздрыгнуў, вочы заблішчэлі, уся фігура на мамэнт як-бы азарылася сьветам, а стан горда выпраставаўся. Быццам хочучы крыкнуць: „Проч вашы крывавыя рукі ад працоўных мас Марокка“..—рашчыніліся раптам яго вусны, каб праз мамэнт узноў пахаваць за сьцяною маўчаньня ўсе думкі і пляны гэтага чалавека, адкуль не здабылі іх навет стараньні спрытнай французскай паліцыі.

Спакойны, халодны і бясчулы стаўся ўзноў Бэн-Альлі на ўсё, што тварылася ў гэтай салі, бясчула, халодна і спакойна выслухаў ён і прыгавар суду, на аснове пастановы якога ён назаўтра рана меў быць расстраляным.

— „Можа асуджаны мае якуюсь просьбу?“—спытаўся старшыня.

Твар Бэн-Альлі ўзноў загарэўся агнём.

— „А ці-ж можна яшчэ аб чым прасіць?“—спытаўся ён, упіваючыся запылаўшымі вачыма ў старшыні.

— „У граніцах закону ўсё дазволена“, адказаў яму той, ня могучы вытрымаць ягонага пагляду.

— „У такім выпадку прашу суд і пракурора навучыць паліцыю і войска абхадзіцца з арыштаванымі Мараканцамі прынамсі так, як гэта вымагае ваш закон і на іх целе ня кідаць лішніх знакаў свайго ня вельмі далікатнага абходжаньня з вязьнямі“.

— „Вывясьці!“—раздалася каманда.

Бэн-Альлі не працівіўся. Твар яго ўзноў стаўся спакойным і халодным, падобным на асьвечаны месяцам магільнік — так дзіўна падобны былі меншыя і большыя, яшчэ зусім сьвежыя, рубцы і сінякі да магільных курганаў і апоўзшых ям.

Бэн-Альлі вывелі ў вастрог; па гораду рассыпаліся патрулі і пераадзетыя паліцэйскія агенты пільнаваць парадку, пільнаваць, каб народ не спрабаваў адбіраць свайго вучыцеля і абаронца.

Напрасны былі толькі страхі — Мараканскі народ прывычны быў ужо да такіх стратаў. Ен знаў, што такія ахвяры ў гэтай барацьбе неабходны, знаў, што спробу звольніць Альлі сілай надта лёгка здавілі-б цяпер французы, праліўшы ўзноў мора крыві. Сьціснуўшы зубы ад болю душы, гадалі толькі паціху ўсе, хто стане цяпер на апусьцеўшае па Бэн-Альлі месца.

* * *

Прайшла ціха ноч. Сон вязьня ў вастрозе сягоньня ўжо ніхто ня трывожыў, а заўтрашні дзень для яго быццам і ня меў быць апошнім.

— „Дзіўны чалавек“...—шапталі ходзючы па калідору вязьніцы, старажы, „сьпіць як-бы пасьля балю“.

Гадзіньнік аднак ня спаў. Стрэлка яго павольі, але ўпарта сунулася наперад, аж нарэшце падыйшла да чацьвертай. Пройдзе яшчэ гадзіна, і вязень павінен перайсці туды, дзе ніхто нікога ня можа — ні судзіць, ні арыштоўваць.

Да брамы падыйшоў атрад вызначаных дзеля выкананьня экзэкуцыі салдат, каб забраць асуджанага. У вастрозе забегалі і замітусіліся, спаўняючы патрэбныя фармальнасьці.

Як учора на суд, так сягоньня на спатканьне салдатам, Бэн-Альлі ішоў горды, спакойны, халодны. На твары ні цені страху, ні каплі жалю, ні сьлёз...

Крок цьвёрды і роўны, нага ў нагу, з акружыўшымі яго жывою сьцяною салдатамі, рушыў Бэн-Альлі ў страшную дарогу.

Вуліцы ціхі — ні цені тутэйшага люду нідзе—навет пры брамах. Толькі прыезджы паліцэйскі стражнік прыблуда, бы магільны каршун, сочыць кругом сваім прагавітым вокам, ды гулкія крокі салдат рэхам злавешчым адбіваюцца ад сьцен.

Але вось кончыўся горад. Вузкаю сьцежкаю пралягла між палёў дарога к лесу, пры якім мае адбыцца экзэкуцыя. Першыя прасмы гарачага сонца ўзка залацяць яго вярхі. З кожным шагам уперад лес абрысоўваецца ўсё ясьней і ясьней. Ужо добра відаць першыя рады высокіх дрэў, відаць і густыя калючыя кустарнікі між імі ўнізе, а там далей налева, не далёка ад рэчкі на парослым кустамі пясчаным узгорку, відаць сінія мундзіры паліцыі.

Бэн-Альлі знае гэта месца. Там злажыў сваю галаву не адзін з храбрых яго кумпаноў, туды на іхнія магілы хадзіў ноччу няраз і ён набірацца сілы і адвагі на далейшую барацьбу з ворагамі працоўных мас, навучыцца ад іх сьмела глядзець у вочы навет сьмерці.

Цяпер аднак ня ноч, а на пагурку занадта многа сініх мундзіраў і гэтае месца ня вабіць вачэй Бэн-Альлі. Пад ім шырокая паласа высокага лесу, з калючым гушчаром ўнізе, за якім ўдалі сінеюцца высокія горы.

